№ 193 (2006)
Чацвер, 14 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +6...+8, сонечна, уначы — -1...+1, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +6...+8, сонечна, уначы — -1...+1, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +5...+7, сонечна, уначы — +1...+3, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +5...+7, сонечна, уначы — -1...+1, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +5...+7, сонечна, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +6...+8, сонечна, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

АДКРЫТЫ ЛІСТ

# Кіраўнікам краін Еўрапейскага Саюза, СНД і ЗША

**Глыбокапаважаныя кіраўнікі краін Еўрапейскага Саюза, СНД і ЗША!**

Мы ўпэўненыя, што адносіны паміж нашымі краінамі павінны развівацца на традыцыях дружбы, культурнага і эканамічнага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі. Аднак у нашай агульнай гісторыі ёсць і такія старонкі, пра якія балюча ўспамінаць, але якія нельга забываць, бо гісторыя мае ўласцівасць паўтарацца.

На жаль, паўтарэнне трагічных падзей еўрапейскай гісторыі можа, на нашу думку, адбыцца ў Беларусі. Чалавек, які дзесяць год таму быў абраны першым Прэзідэнтам краіны, аказаўся не вартым улады. Яшчэ на пачатку свайго праўлення ў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкай газеты "Хандэльсблатт" Аляксандр Лукашэнка прагаварыўся аб сваіх сімпатыях да Гітлера. Яго далейшая дзейнасць на чале дзяржавы не раз пацвярджала невыпадковасць гэтага прызнання. Замест абяцаных дэмакратычных рэформ ён выкарыстаў дадзеныя яму народам агромністыя паўнамоцтвы для стварэння сістэмы адзінаасобнай улады.

На вышэйшыя кіраўнічыя пасады ў Беларусі прызначаюцца людзі, якія падазраюцца ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў — выкраданні і забойстве вядомых палітычных дзеячаў, якія мелі мужнасць адкрыта супрацьстаяць цяперашняму рэжыму. Беларусь так і не выканала патрабаванняў АБСЕ па прывядзенні свайго выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі нормамі, якія выключаюць фальсіфікацыі пры правядзенні выбараў і рэферэндумаў. Двайныя стандарты, цынізм і непрыхаваная хлусня выкарыстоўваюцца цяперашнім кіраўніцтвам нашай краіны не толькі ва ўнутранай, але і ў знешняй палітыцы, што вядзе да ізаляцыі Беларусі ад развітых цывілізаваных краін. Беларускае кіраўніцтва ўсталёўвае шчыльныя кантакты з найбольш адыёзнымі рэжымамі ў свеце.

Усё гэта адбіваецца, у прыватнасці, і на адносінах з галоўным стратэгічным партнёрам Рэспублікі Беларусь — Расійскай Федэрацыяй. Ужо ні для каго не сакрэт, колькі каштавала Расіі рыторыка і спекуляцыі на братніх пачуццях паміж рускімі і беларусамі, якія Аляксандр Лукашэнка выкарыстоўвае для атрымання падтрымкі свайму рэжыму.

Сёння Беларусь стаіць на парозе важных падзей. 17 кастрычніка выбары ў беларускі парламент. На гэтую ж дату Аляксандр Лукашэнка прызначыў рэферэндум з мэтай змяніць Канстытуцыю, скасаваўшы ў ёй абмежаванне знаходжання на пасадзе кіраўніка дзяржавы двума пяцігадовымі тэрмінамі, і атрымаць тым самым права бясконца абірацца на пост прэзідэнта.

Улічваючы, што фальсіфікацыі пры правядзенні выбараў і рэферэндумаў у Беларусі сталі традыцыяй, мы лічым, што над дзесяццю мільёнамі беларусаў навісла пагроза апынуцца пажыццёвымі заложнікамі ў аднаго чалавека з сумніўнымі маральнымі якасцямі і схільнасцю да дэспатызму.

Указ аб рэферэндуме А. Лукашэнка выдаў у дзень жалобы па ахвярах тэрору ў Беслане, цынічна скарыстаўшы момант, калі ўвага расійскай і сусветнай грамадскасці была занятая гэтай трагедыяй.

Аб'яўлены рэферэндум незаконны. Артыкул 112 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь адназначна забараняе выносіць на рэспубліканскі рэферэндум пытанні, "звязаныя з выбраннем і вызваленнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь...".

Ствараецца небяспечны прэцэдэнт. Упершыню ў сучаснай гісторыі Еўропы на рэферэндуме будзе абмяркоўвацца пытанне аб тым, каб канкрэтная асоба атрымала права балатавацца на пасаду прэзідэнта ў абыход усталяваных законам выбарчых працэдур.

Пераважная большасць беларусаў усведамляе небяспеку ўсталявання ў краіне пажыццёвай дыктатуры А. Лукашэнкі і выказваецца супраць незаконна прызначанага рэферэндуму. Аднак таталітарная сістэма ўлады, якая дзейнічае сёння ў краіне, выключае магчымасць сапраўднага выяўлення волі народа. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі вядуць беспрэцэдэнтную па сваім цынізме прапагандысцкую кампанію за рэферэндум і за Аляксандра Лукашэнку як безальтэрнатыўнага кандыдата на пост прэзідэнта. У выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў практычна не дапушчаны прадстаўнікі апазіцыйных партый і дэмакратычнай грамадскасці. Дзеючае выбарчае заканадаўства не дазваляе назіральнікам рэальна ажыццяўляць свае функцыі. "Папярэдняе галасаванне", на якое ўжо цяпер у масавым парадку пачынаюць заганяць людзей, дае ўладам магчымасць ужо да дня выбараў атрымаць жаданыя вынікі, укінуўшы патрэбную колькасць бюлетэняў на працягу 5 начэй, калі урны будуць заставацца на ўчастках пад іх "аховай".

Мы ўдзячныя кіраўніцтву і прадстаўнікам грамадскасці краін Еўрапейскага Саюза, ЗША і Расіі, якія неаднаразова выказвалі сваё негатыўнае стаўленне да жадання А. Лукашэнкі бестэрмінова ўладарыць у Беларусі. І ўсё ж відавочна, што беларускі рэжым робіць стаўку на тое, што міжнародная супольнасць, канстатаваўшы факты фальсіфікацый выбараў і рэферэндуму і прыняўшы з гэтай нагоды некалькі рэзалюцый, сцерпіць здзейсненае беззаконне і будзе вымушана паранейшаму падтрымліваць дыпламатычныя, эканамічныя і іншыя адносіны з рэжымам.

З гісторыі, у тым ліку зусім нядаўняй, мы ведаем, як дорага можа каштаваць такая "дабрадушная цярплівасць" да фактаў яўнага самавольства не толькі беларусам, але і народам Еўропы і свету.

Сёння настае момант ісціны не толькі для нас, беларусаў. Ад таго, наколькі справядліва пройдуць выбары ў нашай краіне, наколькі цвёрдай, прынцыповай і ўзгодненай будзе пазіцыя краін СНД, Еўрапейскага Саюза і ЗША ў дачыненні да антыканстытуцыйнай узурпацыі ўлады ў Беларусі, будзе залежаць будучыня адносін паміж нашымі краінамі.

Мы ўпэўнены, што гэтыя адносіны павінны будавацца на аснове норм маралі. Усе трагічныя падзеі, якія каштавалі чалавецтву незлічоных ахвяр, адбываліся тады, калі гэтыя нормы парушаліся. Той, хто заплюшчвае вочы на грубае парушэнне асноў законнасці і дэмакратыі ў іншых, па сутнасці праяўляе прыхільнасць да выкарыстання такіх самых метадаў і ў сябе. Той, хто выказвае прыхільнасць да ідэалаў свабоды, дэмакратыі і павагі да законнасці, павінен пацвярджаць гэта канкрэтнымі ўчынкамі.

Таму мы вырашылі звярнуцца да вас з заклікам выразна, адназначна і кансалідавана акрэсліць пазіцыю ў дачыненні да спробы антыканстытуцыйнай узурпацыі ўлады, якая рыхтуецца ў Беларусі, і даць ёй належную ацэнку.

Беларусы цэняць дружбу і памятаюць дабро. Ніколі не забудзем мы і дапамогі ў справе пабудовы ў нашай краіне цывілізаванага, свабоднага і дэмакратычнага грамадства, на якую спадзяемся.

**З глыбокай павагай —**

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ,** экс-старшыня Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання;
**Зінаіда БАНДАРЭНКА,** народная артыстка Беларусі, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Рыгор БАРАДУЛІН,** народны паэт Беларусі, ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра;
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,** прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра;
**Генадзь БУРАЎКІН,** паэт, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол;
**Аляксандр ВАЙТОВІЧ,** акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня Савета Рэспублікі і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (2000—2003);
**Радзім ГАРЭЦКІ,** акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, замежны член Расійскай акадэміі навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і СССР, заслужаны дзеяч навукі Беларусі;
**Ігар ДАБРАЛЮБАЎ,** прафесар, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
**Сяргей ЗАКОННІКАЎ,** паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
**Уладзімір КОЛАС,** кінарэжысёр, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Уладзімір КОНАН,** пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
**Васіль ЛЯВОНАЎ,** старшыня апякунскай рады Беларуска-расійскага фонду "За новую Беларусь";
**Арсен ЛІС,** літаратар, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
**Георгій ЛІХТАРОВІЧ,** фотамастак, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Валерый МАЗЫНСКІ,** рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі;
**Аляксей МАРАЧКІН,** мастак, намеснік старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Іван НІКІТЧАНКА,** член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, член управы Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Вячаслаў ОРГІШ,** доктар філасофскіх навук, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Народная воля";
**Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ,** дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, трохразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў, дзевяціразовы чэмпіён свету і Еўропы;
**Анатоль ПАЎЛАЎ,** старшыня праўлення Беларуска-расійскага фонду "За новую Беларусь";
**Алесь ПАШКЕВІЧ,** старшыня Беларускага саюза пісьменнікаў;
**Валерый ФРАЛОЎ,** дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, генерал;
**Уладзімір ХАЛІП,** пісьменнік, кандыдат мастацтвазнаўчых навук;
**Аляксандр ШАТЭРНІК,** скульптар, сябар Рады беларускай інтэлігенцыі;
**Станіслаў ШУШКЕВІЧ,** старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі (1991-1994), член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар;
**Васіль ЯКАВЕНКА,** пісьменнік, лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі Фрыцьофа Нансена;
**Аляксандр ЯРАШУК,** старшыня грамадзянскага аргкамітэта абароны Канстытуцыі, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

СТОП-КАДР




*Генадзь Скрабоўскі, даверанaя асоба кандыдата ў дэпутаты Мікалая Ворана падчас пікетавання на вуліцы г.Гродна 12 кастрычніка 2004 года. Пікет цягнуўся каля гадзіны, за маладым чалавекам пільна назіралі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным (справа). Г.Скрабоўскі быў затрыманы пазней, у сябе дома. Ён пакараны сямю суткамі арышту.*

Фота Юліі ДАРАШКЕВІЧ.

## ЦВК не будзе перашкаджаць правядзенню апытання выбаршчыкаў на выхадзе з выбарчых участкаў

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў не будзе перашкаджаць правядзенню ў дзень галасавання на выбарах і рэспубліканскім рэферэндуме апытання выбаршчыкаў на выхадзе з выбарчых участкаў (экзіт-пол). Пра гэта заявіла старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына.

Паводле яе слоў, гэтая працэдура ніяк не рэгламентавана беларускім выбарчым заканадаўствам. Таму, сказала Л.Ярмошына, калі людзі, якія робяць экзіт-пол, не будуць перашкаджаць рабоце выбарчых камісій, перашкаджаць ім ніхто не будзе.

Юрый ПАЦЁМКІН.

## 17 тысяч беларускіх падлеткаў знаходзяцца на ўліку ў наркалагічных дыспансерах

17 тысяч беларускіх падлеткаў знаходзяцца сёння на ўліку ў наркалагічных дыспансерах, паведаміў начальнік аддзела арганізацыі прафілактыкі правапарушэнняў моладзі і непаўналетніх МУС Андрэй Саладоўнікаў на прэзентацыі дапаможніка па прафілактыцы ўжывання псіхаактыўных рэчываў. Мерапрыемства праходзіла ў Акадэміі МУС 12 кастрычніка.

Марына РАХЛЕЙ.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

*Досрочное голосование:*

# процесс пошел!

*Как известно, позавчера началось досрочное голосование по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания, а также голосование по вопросу, вынесенному на республиканский референдум. Журналист "Народной воли" побывал на одном из избирательных участков.*

Избирательный участок № 558 по 108-му избирательному округу находится в помещении спортзала средней школы № 49 Минска.

Перед входом в спортзал дежурит милиционер. В самом помещении избирательного участка на стенде висят листовки с портретами и информацией о кандидатах в депутаты Палаты представителей. По 108-му округу баллотируются **Николай Статкевич**, **Ольга Абрамова** и **Юрий Ходыко.** Рядом находится стол для наблюдателей и кабины для голосования. Посреди спортзала, рядом с красно-зеленым флагом, стоит урна для голосования. На ней изображен герб.

Председатель участковой избирательной комиссии **Станислав Гришкевич** без всяких вопросов разрешил журналисту присутствовать на участке. А сам принялся инструктировать членов комиссии (кстати, все они — сотрудники столичного завода Вавилова): *"Бюллетени для голосования выдаются на руки избирателям только по предъявлении паспорта или иного документа, удостоверяющего личность. Если у вас возникают сомнения в подлинности документа, незамедлительно сообщите об этом мне".*

Замечу, что в течение получаса моего пребывания на избирательном участке проголосовало три человека. Один из них — **Александр Усов**. На мой вопрос *"Почему Вы решили проголосовать досрочно?"* он ответил так: *"В день голосования, 17 октября, я не смогу проголосовать, поэтому и пришел заранее".*

Следующего избирателя пришлось ждать минут десять. **Виктор Хаткевич** — главный инженер завода имени Вавилова — совместил приятное с полезным: *"Кроме того, что в мои функции входит контроль за тем, как оборудованы участки, все ли в порядке, я решил и проголосовать. Ну раз уж приехал, почему не отдать свой голос?"*

Таким образом, маховик досрочного голосования запущен...

Как известно, практически все независимые кандидаты в депутаты выступают против досрочного голосования. У них довод один: мол, во время досрочного голосования невозможно все пять дней и ночей следить за избирательной урной. Не хватает наблюдателей, готовых на неделю отказаться от работы и круглосуточно сидеть возле урны. Да и кто им разрешит! А ведь именно ночью, как говорят многие, можно запросто подменить результаты голосования. Ведь и пломбу, и бумажку с подписями членов избирательных комиссий, которые висят на урнах, можно запросто заменить. Кстати, секретарь Центризбиркома **Николай Лозовик** утверждает, что урна ни на секунду не остается одна. Возле нее дежурит милиционер с оружием. *"И если будет нападать банда террористов, то он и подмогу вызовет",* — пошутил в "Комсомольской правде" Николай Иванович. Но ведь милиционера можно заменить, например, на работника спецслужб, который выполнит любое указание...

(Окончание на 2-й стр.)

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Хождение по мукам...

**Владимир НИСТЮК, первый заместитель председателя БСДП (НГ), член Центральной Комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов с правом совещательного голоса**



Нынешнюю избирательную кампанию отличает необыкновенный и неприкрытый накат на избирателей и кандидатов в депутаты.

Одной из новых находок в противостоянии кандидатов в депутаты Палаты представителей от оппозиционных политических партий стало уничтожение региональных партийных структур. Десятки региональных партийных структур в ходе избирательной кампании перестали существовать де-юре.

Причем делается это с грубыми нарушениями действующего законодательства, цинично и вызывающе, порождая у граждан недоверие к действующей власти.

Наиболее ярким в этом плане является ситуация в Пуховичском районе Минской области.

21 августа в соответствии с действующим белорусским законодательством Центральный комитет Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) (далее БСДП) выдвинул кандидатом в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по Пуховичскому избирательному округу №88 Николая Андреевича Устименко — председателя центральной ревизионной комиссии партии. В окружную избирательную комиссию своевременно были представлены соответствующие документы. Ничто не предвещало грозы. Затем 13-го и 14 сентября председатель окружной комиссии Ю.П.Васильев направляет официальные письма председателю Центральной ревизионной комиссии БСДП Н.Устименко (почему-то не руководителю районной организации С. Солдатенко), с требованием представить в комиссию вначале документы проведения заседаний районного комитета партии, а затем и все документы, касающиеся деятельности районного комитета БСДП (НГ). Даже с учетом того, что комиссия явно превысила свои полномочия, определенная часть документов была представлена. Однако главная гроза разразилась 16 сентября, в день заседания комиссии по регистрации кандидатов в депутаты.

Н.Устименко было отказано в регистрации кандидатом в депутаты на основании того, что, как указано в решении №20 от 16.09.2004 года, "в комиссию было представлено свидетельство о регистрации районной организации БСДП, в котором указан юридический адрес, не соответствующий действительному местонахождению организации". Откуда взялась эта формулировка? Чем руководствовалась комиссия, нарушая ст. 30 Закона о политических партиях, определяющую в качестве субъектов, имеющих право на проверку деятельности политических партий, **только!** Министерство юстиции и его структуры, регистрирующие организационные структуры партий? Это останется на совести тех представителей власти, которые в вечернее время в сопровождении милиции совершали 14 сентября обход квартир партийцев С.И.Солдатенко и В.М.Довнара.

Причем этот "гениальный" вывод сделан с соответствующей подачи на основании объяснения только одного (из 41 члена этой районной организации) Довнара В.М. о том, что там не хранится документация организации и с конца 2003 года не проводятся собрания членов организации и заседания райкома.

Показательно, как комиссия получала подтверждение своих выводов. Около 20 часов вечера 14 сентября В.Довнар, возвратившись домой, услышал от соседей, что за ним приходила милиция и в его отсутствие опрашивала соседей, приходят ли в его дом партийцы и где сейчас находится хозяин дома. Затем, уже в 21.30, к находившемуся на улице В. Довнару сзади подъехал автомобиль, из которого вышли милиционер с тремя женщинами. Как оказалось, одна из этих женщин, Л.Котова, является заместителем председателя Пуховичского райисполкома, а другая, Л.Бельская, — ответственный работник этого же райисполкома. Они потребовали пройти в дом для осмотра и получения от В.Довнара объяснений. Никто не посчитал необходимым предъявить документы, подтверждающие полномочия прибывших людей, тем более не были представлены документы, дающие право людям с улицы, даже в присутствии милиции, осматривать жилище гражданина, право которого на защиту его личной жизни и жилища защищено Конституцией Республики Беларусь. Пользуясь временной растерянностью хозяина, бравая комиссия потребовала от него написать письменное объяснение по поводу того, что ее интересовало. Можно себе только представить, как себя чувствовал человек, знающий о многочисленных задержаниях оппозиционных политиков, обысках в офисах и на квартирах членов инициативных групп и потенциальных кандидатов в депутаты. К слову, опомнившись после наполеоновского наскока государственных "деятелей", В.Довнар описал весь кошмар, который творился в его доме в этот вечер, и отказался подтвердить свои прежние показания, данные под принуждением.

Хотелось бы, чтобы ретивые чиновники записали себе в дневники положение ст. 27 Конституции Республики Беларусь: "Никто не должен принуждаться к даче показаний против самого себя... Доказательства, полученные с нарушением Закона, не имеют юридической силы".

Далее ситуация развивалась, как в лучших традициях советского детектива. Н.Устименко направил соответствующую жалобу в Центральную комиссию по выборам и проведению республиканских референдумов, которая 21 сентября ее рассмотрела. И каким же было удивление присутствующих, когда, как козырный туз, из рук председателя окружной избирательной комиссии Ю.П.Васильева вдруг на стол был выложен приказ начальника управления юстиции Минского облисполкома за №06-047-СП об отмене регистрации Пуховичской районной организации БСДП (НГ). Не с меньшим удивлением была воспринята дата этого приказа — 16 сентября 2004 года (в день заседания комиссии в Пуховичах). При отказе в регистрации Н.Устименко на него не сослались, а решение комиссия приняла только на основании материалов своей собственной проверки. И совсем уж нокаутирующим ударом явился тот факт, что зарегистрирован этот приказ в управлении юстиции на входящий номер 01-10\2911 **только** 21 сентября, то есть в день рассмотрения жалобы в ЦИКе. Родился он как официальный документ и в Центральную комиссию попал прямо из канцелярии облисполкома, так сказать, свежеиспеченным. Есть все основания предполагать, что совсем не 16 сентября он увидел свет...

А именно на этот приказ управления юстиции ссылались члены Центральной комиссии, принимая 21 сентября решение о признании действий окружной комиссии об отказе в регистрации кандидата в депутаты правомерными, именно на его основании Верховный суд Республики Беларусь отказал в удовлетворении жалобы Н. Устименко.

О какой юридической безупречности и просто человеческой корректности этого документа может идти речь, если подписывался он заочно, тайно, без наличия собственных материалов, без получения соответствующих объяснений выборных должностных лиц партии, с подачи одной заинтересованной стороны, к тому же превысившей свои полномочия и нарушившей закон, как сказано в приказе "на основании материалов окружной избирательной комиссии Пуховичского избирательного округа №88 по выборам депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь третьего созыва".

Возникают очень серьезные, совсем не КВНовские вопросы, ответы на которые, по идее, соответствующие должностные лица должны давать уже в рамках Уголовного кодекса:

1.Статья 30 Закона о политических партиях дает право на проверку деятельности партийных организаций только прокуратуре как органу прокурорского надзора и Министерству юстиции. На каком основании эту функцию возложили на себя местные чиновники? Не мог и не должен был никто из членов партийной организации вообще вести с ними разговор о деятельности партийной организации, тем более представлять ее документацию. Не лишним будет напомнить некоторым особо активным чиновникам, что ответственность за превышение должностных полномочий предусмотрена в действующем законодательстве.

2.Имел ли право начальник управления юстиции отменять регистрацию районной организации? На основании ст. 4.68. Положения об управлении юстиции Минского облисполкома, утвержденного решением Минского областного исполнительного комитета 31.12.2002 №941 и согласованного министром юстиции В. Головановым 30.12.2002 года, управление юстиции "в случаях, предусмотренных законодательством, **готовит представления судам о ликвидации общественных объединений; осуществляет учет организационных структур политических партий...**" Только готовит! Ни слова об отмене регистрации!

3.Почему работники управления юстиции Минского облисполкома не провели собственную проверку состояния Пуховичской районной организации и прибыли в формально ликвидированную ими же самими структуру только 1 октября, то есть через полмесяца после выхода в свет приказа об отмене регистрации организации, после жалобы руководства партии на действия управления юстиции в Министерство юстиции и после принятия соответствующих решений ЦИК и Верховным судом? Причем прибыли не на проверку деятельности организации, а для сбора информации по поручению министра. Что называется, приехали! На них пожаловались, они же приехали эту жалобу расследовать. Причем появление было необычным. В качестве основания для проверки было представлено предписание министра юстиции с грубыми исправлениями от руки сроков предоставления информации, со штампом входящих канцелярии управления юстиции, где также от руки ручкой исправлена дата регистрации. Такие, с позволения сказать, документы не делают честь ни министру, который их подписывает, ни А.А.Бачило, работники которого так с ними обращаются.

4.Почему управление юстиции облисполкома не посчитало нужным направить копию своего приказа районной организации или центральным органам партии, а выслало его только в окружную комиссию? Ведь этим приказом затронуты конституционные права боле 40 граждан Беларуси.

Продолжать этот перечень можно бесконечно. Можно и нужно также цитировать статьи Уголовного кодекса и Кодекса об административных правонарушениях, Избирательного кодекса, которые предусматривают ответственность должностных лиц за нарушение избирательного законодательства. Последний вопрос — даст ли это сегодня ожидаемый эффект, если действующая система защищает чиновника, а не простого человека., если сомнительное с точки зрения Закона решение административного органа и противозаконные действия должностных лиц Пуховичского района лишили конституционного права быть избранным в парламент гражданина страны, а сегодня лишает права законного участия в политической жизни Беларуси еще более 40 граждан.

Думается, что Генеральный прокурор, которому также была направлена почему-то безответная жалоба Н.Устименко, когда-нибудь поможет нам ответить на все эти вопросы.

